№ 78(660)

Серада, 5 мая 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас



Из штаб-квартиры НАТО

## Боевые действия усиливаются

30 апреля 1999 года.

Спикеры брифинга — Джеми Ши, политический докладчик НАТО, Генерал Джузеппе Марани (итальянские вооруженные силы), военный докладчик НАТО.

**Джеми Ши:** "По мнению Джинджича, Милошевич должен вскоре выполнить основные требования НАТО и вывести войска из Косово".

В начале брифинга Джеми изложил три его ключевые темы:

интенсификация боевых действий НАТО;

выполнение гуманитарных задач;

информация о сербской оппозиции.

**Джеми Ши:** 1. "Последние сутки отличались самыми интенсивными за все время боевых действий атаками НАТО военных объектов в Югославии. Благодаря удвоению количества истребителей, используемых НАТО, по сравнению с началом кампании, нам удается значительно увеличить скорость уничтожения целей — как стратегических, так и тактических: железнодорожные и автомобильные мосты, по которым может переправляться военная техника и передвигаться войска; склады с горючим; завод по производству никеля в Косово; пограничный пост; военный аэродром; несколько колонн с военной техникой; крупнейшая телевизионная башня в Белграде; штаб-квартира югославской армии; несколько административных зданий и участков полиции в Белграде, включая здание Министерства обороны Югославии и т.д. 28 новых заправочных самолетов прибывают в наше распоряжение на следующей неделе, что, безусловно, позволит нам осуществлять нашу миссию 24 часа в сутки".

2. "Наши инженеры участвуют в программе развития дорожной сети в районе Кукоса (Албания) с целью облегчить ситуацию с передвижением беженцев. Мы также участвуем в строительстве станций очистки воды для беженцев".

Далее господин Ши привел примеры этнических чисток, которые Милошевич организовывает уже вне территории Косово: в деревнях самой Сербии и в Монтенегро, а также доложил об информации о случаях массовых убийств и изнасилований албанских женщин сербскими солдатами и милиционерами.

3. Господин Ши рассказал об интервью, данном сегодня немецкой газете бывшим мэром Белграда и нынешним главой Демократической партии Зораном Джинджичем, в котором последний сообщил о формировании демократического объединения Югославии, в которое будут входить около 20 демократических партий. По мнению Джинджича, Милошевич должен вскоре выполнить основные требования НАТО и вывести войска из Косово.

**Джузеппе Марани:** "НАТО продолжает свои усилия по лишению Милошевича не только военной техники и боеприпасов, но и потенциальных ресурсов войны — военных производств, горючего и т.д.".

"Сербские войска продолжают концентрироваться вдоль границы с Албанией, обстреливая боевые позиции на Албанской территории".

"Какой-либо активности сербской авиации не обнаружено".

Далее генерал Марани привел статистику по гуманитарной помощи, поставленной НАТО за последние сутки:

В Македонию — 16 вылетов, поставлено 9 тонн продуктов питания и питьевой воды, 11.4 тонн палаточного оборудования; в Албанию — 17 вылетов.

"Все самолеты после выполнения боевой и гуманитарной задачи в целости и сохранности вернулись на аэродромы".

**Некоторые вопросы:**

"Возвращаясь к инциденту в Болгарии, когда НАТОвская бомба разорвалась в Софии, не повлиял ли этот факт на решение Болгарии предоставить НАТО воздушное пространство? И собирается ли НАТО выплатить компенсацию Болгарии за причиненный ущерб?"

**Джеми Ши:** "Вы же понимаете: в любой военной кампании невозможно обойтись без "непредусмотренного ущерба" вообще. Мы глубоко сожалеем о прошедшем инциденте. Однако свою солидарность с НАТО снова решительно продемонстрировал президент Стоянов на прошедшем в Вашингтоне саммите. Касательно компенсации, у меня пока нет необходимых данных на этот счет".

**Специально для "Народной воли" Александр СИЛИЧ, Хартия'97.**

Брюссель.

## У Беларусь "для працягу дыялогу" прыбыў пасол ЗША Дэніел Спекхард

3 мая ў Мінск прыбыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэніел Спекхард.

Як вядома, спадар Спекхард пакінуў Беларусь у сувязі з канфліктам вакол рэзідэнцыі "Дразды" ў чэрвені 1998 года для кансультацый. Як гаворыцца ў распаўсюджаным адносна гэтага паведамленні інфармацыйнай службы Пасольства ЗША, пасол вяртаецца ў Мінск "на тыдзень для таго, каб ацаніць палітычную сітуацыю ў краіне, данесці пункт погляду ЗША да беларускага ўрада і грамадства ў цэлым і надаць новы імпульс пошуку шляхоў вырашэння праблемы "Драздоў". 7 мая Дэніел Спекхард афіцыйна адкрые новы офіс інфармацыйнай службы Пасольства ЗША ў Мінску.

Варта адзначыць, што да сённяшняга дня ЗША заставаліся адзінай дзяржавай, чый пасол не вярнуўся ў Мінск пасля леташняга канфлікту вакол рэзідэнцыі "Дразды".

**Юрый ШЫРОКІ.**

## Зварот кіраўнікоў палітычных арганізацый, аб'яднаных у Каардынацыйны камітэт "Гродзенская ініцыятыва", да партый, прафсаюзаў, грамадскіх арганізацый, да ўсіх грамадзян Беларусі.

Шаноўныя суайчыннікі!

Звяртаемся да Вас з нагоды надзвычайнай небяспечнай падзеі, да якой рыхтуюцца рэакцыйныя сілы Расіі разам са збанкрутаваным рэжымам Лукашэнкі. 10—12 мая ў Гродне яны збіраюцца правесці чарговую сесію Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. На ёй плануецца прыняць дагавор аб аб'яднанні дзвюх краін у адзіную дзяржаву, у выніку чаго наша Беларусь будзе перададзена ў поўнае карыстанне Расіі.

Наскрозь ілжывая прапаганда ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі не ў стане схаваць праўду. Рыхтуецца пазбаўленне 10-мільённага беларускага народа будучыні праз знішчэнне яго дзяржавы. "Саюз" патрэбны ў першую чаргу расійскаму кіраўніцтву, бо Беларусь — вельмі каштоўная тэрыторыя і будзе выкарастана як буферная зона ў супрацьстаянні з НАТО. Акрамя таго, робіцца разлік, што "ўз'яднанне" адцягне ўвагу грамадзян Расіі ад іхняга гаротнага становішча ў раскрадзенай, крымінальнай краіне, у якой перыядычна ўспыхваюць ваенныя канфлікты.

Яшчэ ў большай ступені "Саюз" патрэбен сучаснаму беларускаму рэжыму. Знішчыўшы Беларусь як самастойную дзяржаву, А.Лукашэнка і яго атачэнне разлічваюць пазбегчы адказнасці за той развал эканомікі, які з'яўляецца адзіным "дасягненнем" пяцігадовага прэзідэнцтва. І першыя, і другія спяшаюцца выкарыстаць момант, калі ўвага міжнароднай грамадскасці звернута да падзей на Балканах.

Падрыхтаваны дагавор поўнасцю супярэчыць карэнным інтарэсам нашых грамадзян. Кожны разумны чалавек ведае: народу немагчыма дасягнуць дабрабыту і спакою, калі яго Дом ператворыцца ў камуналку ці прахадны двор. Пра гэта сведчыць гісторыя. Суверэнная Беларусь — галоўная каштоўнасць яе грамадзян, незалежна ад нацыянальнасці. Усё, што можа даць наша зямля, пойдзе на карысць нашаму народу толькі тады, калі Беларусь будзе вольнай, самастойнай дзяржавай. Таму, у адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларусі і ўсімі міжнароднымі актамі, абарона незалежнасці — не толькі наша права, але і наш святы абавязак!

Заклікаем жыхароў Гродна, Гродзеншчыны і ўсёй Беларусі, прадстаўнікоў дэмакратычных партый, прафсаюзаў, грамадскіх арганізацый, а таксама дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-склікання выказаць свой пратэст супраць злачыннага плана, які можа быць рэалізаваны 10—12 мая ў Гродне. Давайце разам скажам тым, хто згубіў рэшткі розуму і сумлення, што нам не патрэбны ніякія "інтэграцыі" — прадвесніцы будучых крывавых падзей. Досыць жабрацтва, хлусні і смерці. Трэба жыць, як жывуць людзі ў цывілізаваных краінах. Мы жадаем любіць, ствараць і будаваць сваю дзяржаву.

Беларусь — наш Еўрапейскі дом, і мы яго гаспадары!

Абаронім Беларусь ад знішчэння, захаваем яе для нашых дзяцей і ўнукаў!

Пазіцыя

## Многае сведчыць пра тое, што кіраўніцтва Беларусі знаходзіцца ў стане канфрантацыі з усімі еўрапейскімі краінамі і выбірае жудасную стратэгію міжнародных зносінаў — тэрарызм

Выступаючы па беларускім тэлебачанні 30 красавіка ў 8.30 раніцы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у ЗША В.Цепкала заявіў, што *Югославия вступила в войну неподготовленной. Югославы считали свою армию самой сильной в Европе. На самом деле это оказалось не так. Для того чтобы иметь сильную армию, югославам надо было хитрить, лгать, совершать подкупы, подлоги. Они должны были подготовить и произвести диверсии на атомных станциях в Европе. Перед тем как начать войну, югославы должны были подготовить взрывы на химических заводах европейских стран...*

Выказванне дыпламата — гэта заўжды пазіцыя кіраўніцтва дзяржавы. А прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка неаднаразова казаў, што *"Следующей после Югославии будет Беларусь. Нас накажут за то, что мы строптивые"*.

Зусім нядаўна Лукашэнка з міністрам абароны Расіі Сяргеевым прынялі рашэнне аб стварэнні адзінай вайсковай групоўкі. Мэты дзейнасці новай вайсковай часткі яны засакрэцілі.

Пра канчатковыя планы кіруючага рэжыму красамоўна выказваўся дэпутат за лукашэнкаўскіх палат Касцян. Яшчэ ўвосень па беларускім радыё Касцян пагражаў Захаду тым, што нашы ракеты даляцяць да сталіц еўрапейскіх гарадоў і тады Берлін і Рым ператворыцца ў руіны.

Падобныя заявы сведчаць пра тое, што кіраўніцтва Беларусі знаходзіцца ў стане канфрантацыі з усімі еўрапейскімі краінамі, і выбірае жудасную стратэгію міжнародных зносінаў — тэрарызм.

Рэалізацыя гэтых вар'яцкіх планаў ставіць шматпакутны беларускі народ на мяжу існавання, робіць жыхароў Беларусі "заложнікамі" палітыкі А.Лукашэнкі.

Сябры Праваабарончага цэнтра "Вясна-96" лічаць, што правячым рэжымам пад пагрозу пастаўлены ўсе асноўныя правы чалавека і галоўнае з іх — права на жыццё. Толькі змена палітычнай сітуацыі можа вырашыць: ці будзем мы будаваць багатую еўрапейскую краіну, у якой нашы дзеці будуць шчаслівыя, ці, седзячы дома, будзем патураць падрыўнікам атамных станцый і хімічных заводаў.

**Праваабарончы цэнтр "Вясна-96".**

Стоп-кадр

Николай Кривальцевич, член Мартиролога Беларуси, укладывает в могилу человеческие кости, выкопанные в период 18—19 апреля 1999 г. неизвестными из мест захоронений жертв расстрелов в урочище Куропаты под Минском. Не так давно несанкционированным раскопкам подверглись шесть мест захоронений.

## Прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук прапанаваў дырэктару Інстытута гісторыі Міхаілу Касцюку адмовіцца ад удзелу ў чарговых выбарах кіраўніка гэтай установы

Прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ) Аляксандр Вайтовіч на днях прапанаваў дырэктару Інстытута гісторыі Міхаілу Касцюку адмовіцца ад удзелу ў чарговых выбарах кіраўніка гэтай установы. Як вядома, напрыканцы сакавіка гэтага года адбылася сустрэча прэзідэнта НАНБ і кіраўніцтва аддзялення гуманітарных навук і мастацтва акадэміі з членамі вучонага савета і вядучымі спецыялістамі Інстытута гісторыі. Сустрэча, якая праходзіла ў добразычлівай і канструктыўнай атмасферы, была прымеркавана да маючых адбыцца ў маі выбараў дырэктара інстытута і атэстацыі вядучай у галіне гістарычнай навукі ўстановы краіны.

Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у кіраўніцтве Інстытута, на днях А.Вайтовіч прапанаваў акадэміку М.Касцюку адмовіцца ад удзелу ў выбарах дырэктара інстытута на чарговы тэрмін. Пры гэтым прэзідэнт акадэміі не выказаў ніякіх абгрунтаваных прэтэнзій да дзейнасці дырэктара інстытута і калектыву вучоных. Як вядома, НАНБ, згодна са сваім статутам, з'яўляецца самакіруючай установай, дырэктары яе інстытутаў выбіраюцца адпаведнымі аддзяленнямі з ліку вядучых вучоных і зацвярджаюцца прэзідыумам акадэміі на пяць гадоў. У адпаведнасці з дэмакратычнымі прынцыпамі, закладзенымі ў акадэмічным статуце, у выніку тайнага галасавання, якое двойчы адбылося ў 1989 і 1994 гадах, сход працоўнага калектыву амаль аднагалосна падтрымаў кандыдатуру М.Касцюка. На думку супрацоўнікаў Інстытута, узрост, навуковыя дасягненні і арганізацыйныя якасці дазваляюць М.Касцюку прадоўжыць паспяховае кіраўніцтва навуковай установай і ў наступны пяцігадовы перыяд. Супрацоўнікі інстытута лічаць прайшоўшую размову прэзідэнта НАНБ з акадэмікам М.Касцюком працягам наступлення на беларускую гістарычную навуку і аб'ектыўнае асвятленне гістарычных фактаў вучонымі суверэннай незалежнай дзяржавы.

**Міхась СПАСАЎСКІ, БелаПАН.**

Надвор'е

5 і 6 мая па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя ападкі. Вецер паўночна-заходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы — 0...-5, месцамі +1...+3; удзень — +5..+10.



Переписка

*Галоўнаму рэдактару газеты "Народная воля" Сярэдзічу І. П.*

Паважаны Іосіф Паўлавіч!

23 красавіка 1999 г. у Вашай газеце быў надрукаваны артыкул А.Лябедзькі. Хачу, каб Вы давялі да ведама Вашых чытачоў, што 26 лістапада 1996 г. большасцю дэпутатаў Вярхоўнага Савета быў прыняты закон, які пацвердзіў абавязковы характар рэферэндуму. Яшчэ раней, 3 сакавіка 1995 г., відаць, з удзелам А.Лябедзькі, быў прыняты закон аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у закон аб Канстытуцыйным Судзе, артыкул 2[1] якога замацаваў прэзумпцыю канстытуцыйнасці любога нарматыўнага акта. Гэтыя законы былі надрукаваныя.

Разумеючы праблемы аўтара, усё ж прасіў бы яго і рэдакцыю газеты быць дакладнымі ў сваіх артыкулах.

Дасылаю Вам вытрымкі з "Ведамасцяў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" за 1996 год № 35 і 1995 год, № 20.

**Р.А.ВАСІЛЕВІЧ, старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь.**

Акции

## Сидячая забастовка предпринимателей

По информации, полученной в Объединенном комитете профсоюза предпринимателей г.Минска и Минской области, с 25 апреля 1999 года бастуют рынки г.Гродно, с 1 мая — г.Бреста, а с сегодняшнего дня останавливаются все рынки Беларуси.

Предприниматели возмущены конфискацией имущества и товара. Данную акцию они расценивают как открытый террор властей против бизнесменов и их семей. Предприниматели считают, что против них давно ведется едва прикрытая классовая война, и молчать далее они не намерены.

5—6 мая с.г. предприниматели будут сидеть на своих оплаченных местах на столичном стадионе "Динамо", а коллеги с остальных рынков Беларуси, заплатив за входные билеты, придут их проведать, чтобы в непринужденной обстановке обменяться коммерческим опытом. Такой вот своеобразный день открытых дверей.

Ни митингов, ни собраний, ни шествий не проводится, и потому у властей не будет юридического основания обвинить предпринимателей в каком-либо правонарушении.

Если власти не проявят благоразумия и не прекратят произвола, то предприниматели намереваются организовать одновременный уход всех продавцов белорусских рынков в отпуск и прекращение в связи с этим выплаты с 1 июня 1999 года налогов, объем которых в бюджете составляет, по их подсчетам, 30 процентов.

**Никита ПИГУЛЬ.**

## Праграма стыпендый для студый у Польшчы на 1999/2000 год

Фонд імя Стэфана Баторыя ў Варшаве абвяшчае конкурс на гадавыя стыпендыі ў Польшчы для студэнтаў 3 і 4 курсаў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, якія знаходзяцца на этапе напісання дыпломаў у галіне:

- права і адміністрацыі;
- макраэканомікі;
- сацыялогіі;
- дзяржаўнага кіравання і адміністрацыі;
- гісторыі;
- міжнародных зносін, паліталогіі.

Тэма дыплому павінна датычыць праблем сучаснай Беларусі і магчымасцей іх сістэмнага вырашэння.

Кандыдат на стыпендыю ў Польшчы павінен адрознівацца вельмі добрымі адзнакамі сваіх папярэдніх студый. Веданне польскай мовы (пасіўнае або актыўнае) будзе вельмі дарэчы, хаця і не з'ўляецца абавязковым (Фонд забяспечвае для стыпендыятаў месячны падрыхтоўчы курс польскай мовы на працягу 1—28 жніўня 1999 г.).

Фармуляры анкет, а таксама дадатковую інфармацыю можна атрымаць штодзённа ад панядзелка да пятніцы з 11 да 17 гадзін у

**Маладзёжным інфармацыйным цэнтры**
**Мінск, вул. Дарашэвіча, 4—2**
(ад пл. Якуба Коласа, насупраць Палітэхнічнай акадэміі)
**тэл. 232-27-43**
e-mail: yic@cscsc.lingvo.minsk.by

Цалкам аформленыя заявы просім дасылаць **да 25 мая 1999 г.** на адрас:

**Польскі Інстытут,**
**вул. Румянцава, 6,**
**220034, Мінск,**
**з надпісам — стыпендыя.**

Пісьмы з вёскі

*Уладзімір ІГНАТОВІЧ, патомны селянін*

## 4. Бюракратам — вечная памяць...

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 75, 76, 77.)*

У маім "архіве" захаваўся адзін даволі цікавы дакумент. Спадзяюся, шмат у каго з вас такіх "экспанатаў" нямала. Некалі, гадоў сем таму, я напісаў пісьмо ў аблвыканкам, а потым — і ў нашу "Лідскую газету", дзе шчыра расказаў пра становішча сялян на вёсцы, прапаноўваў, як звычайна, канкрэтныя меры і захады, якім чынам хоць трошкі аблегчыць жыццё вясковага чалавека.

А тады яшчэ (успомніў: гэта быў 1993 год) было прынята на пісьмы працоўных даваць адказы. І я даволі хутка атрымаў пісьмо з раёна. Але ў тым дакуменце, падпісаным намеснікам старшыні Лідскага райсавета народных дэпутатаў, старшынёй Дварышчанскага сельсавета і дырэктарам эксперыментальнай базы "Ніва", было пазначана: "...Праблемы, узнятыя г-нам Ігнатовічам У.М., прызнаны правільнымі толькі часткова". Удзельнікам сходу жыхароў вёсак Сліжы, Мяляшы, Левашы, што абмяркоўвалі маё пісьмо ў аблвыканкам і райгазету, як звычайна, нічога не паведамілі. Напэўна, таму, каб не выклікаць залішніх абурэнняў, бо сход пацвердзіў усё, што мной было напісана.

Ад гэтага, здавалася б не вельмі важнага ў нашым паўсядзённым жыцці факта, я прыйшоў да высновы, што ўсе чыноўнікі ведаюць (і хто іх гэтаму вучыць?) такія "выкрутасы", якія, быццам бы, і задавальняюць людзей на першым часе (хоць штосьці ды палепшаць), а потым усё кладзецца пад сукно і забываецца. І людзі паступова прыходзяць да неабвержнай думкі: ад начальства дапамогі не чакай. А начальству, па праўдзе кажучы, ад тых думак — ні холадна, ні горача.

А сутнасць "выкрутаса" мясцовага начальства была такой: ад праўды нікуды не дзенешся, трэба неяк рэагаваць. Таму вырашылі хітра: факты і праблемы, якія патрабуюць няшмат сіл і сродкаў на выпраўленне, прызнаць правільнымі, а пра астатнія, больш важныя і складаныя, — ні слова. Такім чынам, скарга задаволена. Пісьмо — у архіў. І надзеі людскія — туды ж.

Але мусіў я выцягнуць той афіцыйны адказ са свайго архіва і нагадаць мясцоваму і абласному начальству пра тыя абавязацельствы, а менавіта:

— адрамантаваць Чырвоны куток у вёсцы Сліжы;

— прывесці ў парадак і запусціць у работу душавую на ферме "Сліжы";

— вырашыць пытанне з размяшчэннем коней;

— разгледзець пытанне аб руху аўтобусаў;

— заасфальтаваць вуліцы ў вёсцы Левашы...

Гэтыя абавязацельствы так і засталіся нявыкананымі...

Хоць і праходзіць час, мяняецца начальства, назапашваюцца ўсё новыя і новыя праблемы, але людская памяць хавае ў сваіх нетрах факты і прыклады бессаромных адносін мясцовых і вышэйшых бюракратаў да людскіх патрэб.

Так і падбухторвае думка сказаць напаследак наступнае: вечная памяць будзе жыць пра вас, чыноўнікі бессардэчныя, ілжывыя, двурушныя!

* * *

Калі што-небудзь з майго вялікага пісьма будзе надрукавана, то скажу шчырае дзякуй і "Народнай волі", і чытачам, і ўсім, хто, чытаючы, спачуваў нам, вяскоўцам, людзям затурканым, паднявольным, бедным, абражаным і абдзеленым дзяржаўнай увагай.

Нізкі паклон усім вам!

А чыноўнікам-бюракратам маё асобае слова: пра вашу халодную душу, чэрствае сэрца, абыякавасць да людзей будзе памяць вечнай!

**в.Сліжы Лідскага раёна.**

## Не пусцілі ў Мінск для ўдзелу ў першамайскай дэманстрацыі

Прадстаўнікі Беларускага незалежнага прафсаюза гарнякоў з Салігорску не змаглі ўдзельнічаць у першамайскай дэманстрацыі ў Мінску, якая, па іх задуме, павінна была стаць вынікам прабегу "Салігорск — Мінск".

Як паведаміла прэс-служба БСДП (НГ), адзін з актывістаў партыі — удзельнік прабегу Мікалай Зімін — быў зняты з дыстанцыі і аштрафаваны на 10 мінімальных зарплат. Тым не менш астатнія члены незалежнага прафсаюза вырашылі прадоўжыць акцыю. Раніцай 1 мая яны выехалі з Салігорску, каб даехаць да вёскі Валяр'яны, а адтуль прабегчы да Мінска. Машыну ўдзельнікаў акцыі супрацоўнікі міліцыі затрымалі ў Слуцку, дзе прэзідэнта Беларускай канфедэрацыі дэмакратычных прафсаюзаў Віктара Бабаеда, сацыял-дэмакрата Аляксандра Каралёва і іншых удзельнікаў акцыі пратрымалі амаль да 13 гадзін.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

Пр. ПЕРАПАЛАВІННЕ, Варфаламея, Віталя, Гаўрылы, Клімента, Лукі, Усевалада.
К. Ірэны, Вальдэмара.

**180 гадоў** з дня нараджэння Станіслава Манюшкі (1819—1872), польскага і беларускага кампазітара, дырыжора і педагога.

МАЙ
**5**
'99 СЕРАДА

| ☉ | ☾ |
| --- | --- |
| Усход 5.26 | Апошн. квадра 8 мая |
| Захад 20.48 | Усход 1.31 |
| Даўж. дня 15.22 | Захад 9.34 |

Демократия по-белорусски

## Без жандармского хапуна не обошлось даже 1 Мая

Первомайский митинг в белорусской столице проходил в лучших традициях советских времен: выступающие поносили проклятых империалистов за их черные дела, творимые где-то там — на краю земли. Об этом "кричали" и транспаранты перед трибуной. А вот плакатов, клеймящих власти за нищенскую зарплату и отсутствие политических свобод, не наблюдалось даже в колонне, оппозиционной режиму Партии коммунистов (ПКБ). Судя по наглядной агитации в рядах демонстрантов и участников митинга, внутренних антагонистических проблем у нас не существует.

Да и откуда им быть, если планировал и проводил первомайские мероприятия зампредисполкома Виктор Чикин, он же первый секретарь ЦК КПБ, той самой ортодоксально-большевистской партии. Кроме него в оргкомитете по "празднованию" числились еще два функционера пропрезидентской коммунистической партии, один бэпэсэзмовец, семь должностных лиц Мингорисполкома и три высоких профбосса из лояльных к вертикали профсоюзов.

Под стать оргкомитету были и выступающие. Они говорили о том, что у нас построено общество гражданского согласия с курсом первого президента, о белорусской экономике, ориентированной на нужды человека (?!), о том, что заработная плата выплачивается на Беларуси своевременно, о поддержке устремлений президента по строительству ледовых дворцов, о монополизации государством банковской системы...

Поразительно, но резолюция большевистского митинга, принятая в день международной солидарности трудящихся, не призывает к солидарности не то что с мировым пролетариатом, но даже с собственным рабочим классом, крестьянством, интеллигенцией, осуждает агрессию НАТО на Балканах и требует прекратить уничтожение народа Югославии. О гибели собственного народа, вот уже пять лет вымирающего при нынешнем режиме и без авианалетов Североатлантического альянса, руководство пропрезидентских большевиков-коммунистов и профсоюзов, похоже, не знает.

Предоставить же на митинге слово социал-демократам и демократическим профсоюзам большевик-коммунист Чикин отказался. Последним ничего не оставалось, как гордо удалиться. Причем ушла не только оппозиционная колонна с левой стороны площади. Согнанные на митинг минчане после первых же верноподданнических словес в адрес нынешнего главы государства еще большей колонной покидали площадь и с правой ее стороны. О принудительной "мобилизации" участников чикинского митинга свидетельствовали слова одного студента из колонны Партизанского района, заявившего, что в случае неявки на данное мероприятие им угрожали не поставить зачет.

А после митинга милиция разогнала женщин, поющих белорусские песни на самом дальнем углу площади Независимости. Потому как своими слабыми голосами они мешали слушать песни на русском языке, звучащие в центре этой "независимости" из мощных динамиков, находящихся в подчинении большевика-коммуниста Чикина. Большего цинизма, по-моему, уже не бывает. Правящий режим перечеркнул конституционные гарантии каждому гражданину: **сохранять свою национальную принадлежность и пользоваться родным языком** (статья 50 Основного закона). И это в День международной солидарности трудящихся (!).

Появление на месте сбора колонны Народнай Грамады и Конгресса демократических профсоюзов начальника отдела массовых мероприятий ГУВД Мингорисполкома майора Кондратина свидетельствовало, что планируется очередной жандармский хапун. И действительно, после митинга жандармы (лица в цивильной одежде, называющие себя сотрудниками уголовного розыска) схватили в разных концах города 16 участников первомайской демонстрации и под предлогом выяснения личности поволокли в Московский РОВД.

Там, попирая все процессуальные нормы закона, участников проводимой властями первомайской демонстрации пять часов продержали под стражей, не давая возможности пообедать и сообщить родственникам о своем местонахождении, составили протокол — за то, что... посмели уйти с митинга (!), и выписали повестки в... суд. Ведь на Беларуси дату судебного процесса по политической статье (167[1] КоАП) назначает не судья, а... милиция (!).

Необходимо отметить новое белорусское изобретение властей на поприще борьбы с инакомыслием: привлечение к ответственности за уход с митинга. Ведь до сих пор штрафовали и отправляли под арест за несанкционированное властями появление в рядах демонстрантов. Впредь, видимо, под суд будут попадать и те, кто посмеет не захотеть стать участником шествия или митинга в поддержку всенародноизбранного.

О первомайском преследовании именно по политическим мотивам свидетельствует то обстоятельство, что из числа демонстрантов, помимо руководства Свободного профсоюза металлистов и социал-демократов из Народнай Грамады, хватали лишь тех рядовых участников, которые несли плакаты с требованием свободы кандидату в президенты Республики Беларусь Михаилу Чигирю и всем остальным заключенным.

По сообщению пресс-службы Народнай Грамады, различного рода репрессиям подверглись также профсоюзные активисты и социал-демократы Бреста, Солигорска, Борисова.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ



# Народзе ты мой, народзе...

(Працяг. Пачатак у № 77.)

Які б адказ у будучым ні дала машына, у любым выпадку гэтая гіпотэза — яшчэ адно пацвярджэнне таго, што мы маем права лічыць Кірылу Тураўскага першым пісьменнікам еўрапейскага (а для таго часу — і сусветнага) узроўню, што жыў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Нездарма нашы далёкія продкі называлі яго — "Златауст, паче всех воссиявший на Руси" ("Дзеці і мы", 1992, № 16).

Зоркі асветы, запаленыя святымі Еўфрасінняй Полацкай і Кірылам Тураўскім, не згаслі ў вяках і дажылі да часоў Скарынавых. Між іншым, кнігі свае Скарына стварыў у той самы трагічны час, калі на Маскве, на вялікі жаль, разумныя людзі паміралі за адзіную літару "аз", а геніяльны Максім Грэк быў асуджаны царкоўным Саборам на пажыццёвае зняволенне. Сёння даказана, што гэты волат духу калі і не быў асабіста знаёмы са Скарынам, то ведаў яго кнігі, карыстаўся імі, цытаваў у сваіх працах думкі беларускага асветніка. І тое, што мы ганарымся гэтым, аніяк не аднясеш на наш нацыяналізм.

Пра скарынінскія традыцыі ў друкарскай справе скажам крыху пазней, а зараза — пра Скарыну яшчэ як і пра аднаго са складальнікаў Статута Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага 1529 года.

Статут — гонар нашага народа, сведчанне яго дзяржаўнасці, цывілізаванасці, культуры і адметнай самабытнасці. Ў пісьмовай форме законы былі ў нашых прашчураў ужо ў XIII—XIV стагоддзях. Прафесар Язэл Аляксандравіч Юхо пераканаўча даказаў гэта ў сваіх шматлікіх грунтоўных даследаваннях. Кадыфікацыя ж законаў пачалася ўжо ў сярэдзіне XV стагоддзя. Пасля прыняцця і зацвярджэння Статута 1529 года праца над ім не спынялася. У 1566 годзе быў прыняты другі, дапрацаваны, Статут. А ў 1588-м — трэці. Гэта быў самы дасканалы збор законаў Беларуска-Літоўскага гаспадарства. Гэта было дзецішча таленавітага сына Айчыны канцлера Беларуска-Літоўскага гаспадарства Льва Сапегі і яго не менш таленавітых паплечнікаў. Статут з'явіўся першым сістэматызаваным зборам законаў у Еўропе, які ўключыў у сябе дзяржаўнае, вайсковае, маёмаснае, крымінальнае і сямейнае права. То быў узор праватворчай думкі ў тагачаснай Еўропе. І Еўропа гэта прызнала. Статут быў перакладзены на шэраг моў, у тым ліку і на рускую. Натуральна, што створаны і надрукаваны ён быў спачатку на беларускай мове, якая была дзяржаўнай у Беларуска-Літоўскім гаспадарстве на працягу вякоў яго існавання. (Гэта сёння мы марым увайсці ў цывілізаваную Еўропу, куды нас не вельмі запрашаюць. А то быў час, калі мы былі самой часткай той цывілізаванай Еўропы.)

Шкада, што нашы цяперашнія заканадаўцы не заглядваюць у Статуты першай Беларускай дзяржавы. А, між іншым, там ёсць чаму павучыцца. Ну, хоць бы таму, што трэба берагчы тую зямлю, на якой жывеш, не нішчыць яе лясоў і рэк, не зводзіць яе жыўнасць, не прадаваць яе іншаземцам, не даваць дзяржаўных пасад іншаземцам, не дазваляць карчмарам спойваць народ і многае іншае.

Нямала цікавага ёсць і ў зямельным кодэксе Беларуска-Літоўскага гаспадарства, так званай "Уставе на валокі", якая адносіцца да тых жа часоў, што і Статуты. Дарэчы, Статутам 1588 года многія губерні Расійскай імперыі карысталіся аж да 1848 года. Ну, а ў падзеленай і задушанай Беларуска-Літоўскай дзяржавы дзейнічаць сталі расійскія законы — пісаныя і няпісаныя. Пасля гвалт з дзяржавы і яе народа афіцыйная навука і прапаганда назавуць "добровольным вхождением Белоруссии в состав единокровной России". А потым будзе яшчэ яе ўваходжанне і таксама "добровольное" "в единую семью братских народов". Сёння ж нас тысячамі павадкоў прывязваюць да той жа Расіі праз нераўнапраўныя і кабальныя дагаворы. Чым гэта скончыцца для нашага народа, угадаць няцяжка...

Хто пра гэта гаварыў бы сёння, каб гісторыю нашу не перакручвалі, а з нас бы, вельмі "талерантных" тутэйшых, не здзекваліся. Ну чаго толькі варты такі факт. Калі Расія адзначала, і не першы ўжо раз, юбілей "свайго" "первого восточнославянского первопечатника Ивана Федорова", то імя Францішка Скарыны так званая цэнтральная прэса нават не згадвала, не кажучы ўжо пра тэлебачанне і радыё, Пётр Мсціславец жа праходзіў як нейкі безаблічны цень Фёдарава. І тут няма ніякай загадкі, бо ў наяўнасці адно нахабства. Па-першае, Іван Фёдараў не з'яўляецца першадрукаром усходнеславянскім, бо гэты гонар належыць іншаму друкару і не проста друкару, а асветніку, перакладчыку, мастаку, доктару медыцыны і навук вызваленых Францішку, сыну Скарыніну, з слаўнага града Полацька, які здзейсніў свой подзвіг гадоў на сорак з гакам раней за Івана Фёдарава. Па-другое, калі ўжо на тое пайшло, Іван Фёдараў — гэта Іван Хведаровіч, наш зямляк, выхаванец таго ж, што і Скарына, Ягелонскага універсітэта. І гэта пераканаўча даказаў маскоўскі даследчык Яўген Неміроўскі. А што да Пятра Мсціслаўца, то ён выбраў ці яму далі такое прозвішча, што, як кажуць, каментарыі не патрэбны. А дадаць, што ён пры Івану Хведаровічу быў фігураю важнай, варта. І не дзеля нейкай нашай беларускай амбіцыі, а дзеля справядлівасці і праўды перад гісторыяй. Пасля таго, як Мсціславец разышоўся з Хведаровічам, ён стварыў і выдатна наладзіў справу ў сваёй Віленскай друкарні.

З лёгкай рукі Скарыны ды Хведаровіча з Мсціслаўцам Беларусь (тады яе называлі Літвою, якую не варта блытаць з Жамойціяй; нас жа звалі ліцвінамі, якіх не трэба блытаць з літоўцамі ці летувісамі) стала краем надзвычай актыўнай выдавецкай дзейнасці. Багатыя і адукаваныя людзі лічылі сваім гонарам мець уласную друкарню ці быць фундатарамі выдавецкай справы. Друкарні ствараліся ў замках магнатаў, у маёнтках дзяржаўцаў, пры манастырах. Тым не менш, як піша адзін з найлепшых даследчыкаў беларускага сярэднявечча і яго культуры Юрый Лабынцаў, "беларусские издатели и типографии XVI в. почти никогда не были исполнителями чужой воли, они печатали то, что считали нужным. Это одна из важнейших особенностей их деятельности, оказавщей колоссальное влияние на развитие культурного процесса. Белорусским типографиям и издателям удалось создать несколько типов печатных книг, имеющих свои собственные черты, отличающие от прочих подобных изданий. Особая заслуга в этом принадлежит типографиям Франциска Скорины, Петра Мстиславца, Мамоничей, Виленского братства". (А былі ж яшчэ друкарні ў Нясвіжы, Куцейна пад Оршай і многія іншыя. Дарэчы, Куцеінская друкарня была цалкам вывезена ў Расію. — **А.П.**) "Количественные подсчеты и анализ содержательной стороны выпущенных книг свидетельствуют о ведущей роли белорусской печатной литературы XVI столетия среди литератур ряда народов Востока и юга Европы, в том числе русского, украинского, болгарского, сербского и других, и неопровержимо доказывают, что белорусская кирилловская печатная литература православной ориентации была тогда крупнейшей и богатейшей в мире. Во всей продукции типографий кирилловского шрифта доля белорусских составляет более половины, во второй половине XVI в. — около сорока процентов. Это ставит белорусскую печатную литературу в ряды ведущих в Европе, распространяющих свое влияние на все концы материка. Особенно сильным влияние было в России XVI—XVII вв". ("Советская Белоруссия", 5 жніўня 1992 г.)

Падлікі Ю.Лабынцава сведчаць, што да 1596 года, а гэта верхняя храналагічная граніца эпохі Адраджэння, на Беларусі і за яе межамі для беларусаў праваслаўных, католікаў і пратэстантаў было выдадзена каля чатырохсот назваў кніг. Іх тыраж склаў звыш трохсот тысяч асобнікаў. (Так што, як той казаў, не бяры тутэйшага голай рукою і тым больш не ўшывай яго ў дурні!) Сёння б нам такія тыражы!..

Робіць гонар беларускім выдаўцам і тое, што яны экспартавалі "в иные земли" не толькі кніжную прадукцыю, але і друкарскі рыштунак, дапамагалі ў стварэнні цэлых выдавецкіх цэнтраў. Беларускія выдаўцы і друкары прымалі ўдзел у стварэнні рускага кнігадрукавання ў XVI стагоддзі, падтрымлівалі яго на працягу ўсяго XVII стагоддзя і ў пачатку XVIII. Пра гэта таксама паведамляе Ю.Лабынцаў. Дададмо да гэтага, што першую спробу дапамагчы тады яшчэ роўным братам у друкарскай справе зрабіў Францішак Скарына, прывёзшы ў Маскву на, як бы цяпер сказалі, прэзентацыю свае кнігі і, магчыма, друкарскае абсталяванне. Толькі ўлады маскоўскія па патрабаванні айцоў царквы прывезенае асветнікам на кастры спалілі. Самому ж яму ўдалося ўратавацца, можа, толькі таму, што на той час былі падпісаны перамірныя граматы паміж Масковіяй і Беларуска-Літоўскім гаспадарствам. Праз шмат гадоў пасля гэтага Івану Хведаровічу ўсё ж удаецца надрукаваць на Маскве адзіную кнігу, пасля чаго яму давядзецца ўцячы з Масквы і ратавацца на Беларусі, дзе ён знойдзе і прытулак, і гасціннасць, і ўмовы для друкавання кніг. Разам з Пятром Мсціслаўцам Іван Хведаровіч засну знакамітую друкарню ў Заблудаве на Гродзеншчыне (цяпер тэрыторыя Польшчы) на сродкі і пры падтрымцы гетмана Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Пасля ж пераедзе ў Львоў, дзе таксама наладзіць друкарню і здзейсніць свой асноўны грамадзянскі подзвіг, які створыць гонар не толькі Белай і Малой Русі, але і Русі Вялікай.

Такая вось яна, сярмяжная праўда пра нашу тутэйшую цемнату і спрадвечную забітасць, калі быць сумленным перад той жа гісторыяй — сваёй і краін суседніх. А пра Радзівілаў ды іншых дзяржаўцаў, якім не трэба было абяцаць свайму народу карыстацца на пасяджэннях роднай мовай, пра Статуты як атрыбут і галоўнае сведчанне нашай дзяржаўнасці задоўга да Вялікага Кастрычніка, пра друкарні як паказчык нашай цывілізаванасці, пра Скарыну ды Сапегу як сімвалы адукаванасці і найвышэйшай культуры я толькі таму яшчэ раз успомніў, што да слова прыйшлося і дужа абрыдла ў затурканых хадзіць ды прыніжацца перад дужа цывілізаваным старэйшым братам.

Можна было б расказаць яшчэ пра цэлы пласт беларускай паэзіі на лаціне часоў сярэднявечча, якой у краінах бліжэйшага ўсходняга замежжа наогул не было. Узяць бы хоць паэму "Пруская вайна" Яна Вісліцкага, нашага земляка, выкладчыка Ягелонскага універсітэта, пра Грунвальдскую бітву, напісаную на латыні праз 100 гадоў пасля той бітвы і ў паэтычнай форме, не перакладзеную пакуль на родную мову яе аўтара.

Скажу вам шчыра, браткі беларусы: дзіўна, прыкра, брыдка, а бывае і страшна чытаць у газетах ды слухаць па радыё-тэлебачанні "песні", вельмі падобныя на тыя, што некалі гучалі-ліліся са старонак "Губернских ведомостей" часоў росквіту каланіяльнай Расійскай імперыі, калі Айчына наша па волі акупанта-захопніка звалася "Северо-Западным краем", а потым "Западной коммуной", а потым "Советской Социалистической Республикой", апорай і надзеяй якіх у ахове "великой, единой и неделимой" быў і, "между протчым", застаецца ўсё той жа бессмяротны Мікіта Зносак — стварэнне настолькі гнюснае, наколькі і жывучае. Гэта і сёння ўсё ён жа пад дыктоўку "русско-истинных интернационалистов", а цяпер і расійскіх нацыяналістаў, ставіць усё тыя ж замшэлыя пытанні: а ці была ў беларусаў свая гісторыя? а ці жылі яны хоць калі-небудзь пры сваёй дзяржаве? а ці не пазычылі яны сваю Пагоню ў паліцэйскіх узору 1941—1944 гадоў? а ці не дыялект іх мова ад мовы расійскай? а ці была калі-небудзь такая нацыя, як беларуская? а ці варта адраджаць беларускія школы, каб вывучаць дыялект, калі можна адразу вывучаць "великий и могучий"?..

Словам, правакатары-шавіністы праз недавяркаў-зносакаў пытанні задаюць, а сродкі масавай інфармацыі іх множаць і трансліруюць, узбуджаючы дурняў да змагання супраць саміх жа сябе і будучыні сваіх нашчадкаў. (Па-тутэйшаму гэта завецца свабодай друку ў свабоднай, незалежнай і нейтральнай Рэспубліцы Беларусь.)

Пытанні, здавалася б, што? Адзін правакатар ці дзесяць затурканых тутэйшых могуць задаць столькі пытанняў, што сто разумнікаў не адкажуць. Але калі б ставіліся толькі пытанні, няхай сабе і дурныя, то толькі б той і бяды было. Але ж гучаць і сцвярджэнні. Беларусь, маўляў, гэта не што іншае, як Русь, толькі Белая. Ёсць жа, маўляў, Русь Вялікая, Русь Малая, Русь Чорная і нават Чырвоная. Чаму ж у гэтым шэрагу "под началом великой и неделимой" не быць і Русі Белай.

І паглядзіце, як зашамацела, як замільгала гэтая назва на шыльдах кааператываў, асацыяцый, карпарацый, вялікіх і малых прадпрыемстваў, латкоў, ларкоў і Бог ведае яшчэ чаго. Ёсць "медждду протчым", сказаў бы Зносак, і выдавецтва "Белая Русь", якое, здаецца, нічога беларускага не выдае і выдаваць не збіраецца. Пра што, пра што, а пра гэта зносакі ўжо паклапоцяцца. Для іх найвялікшае шчасце — гэта мець каўбасу, называцца малодшым братам і каб штохвілінна гучала назва метраполіі-імперыі, каб ніхто і сумнявацца не смеў, што Беларусь — гэта Русь, Расія, толькі Белая ў адрозненні ад Чорнай, Чырвонай і Малой.

Наш выдатны гісторык Мікола Ермаловіч справядліва зазначыў, што "самы страшны тэзіс, які знішчыў усю нашу гісторыю, гэта тэзіс аб бездзяржаўнасці Беларусі. Маўляў, дзяржавай беларусаў ашчаслівілі толькі ў 1919 годзе. А да гэтага мы былі заваёваны Кіевам, пасля Літвой, Польшчай, а ўрэшце вызвалены Расіяй". Гэты тэзіс вельмі сугучны з заявамі "истинно русских патриотов" аб "истинно русских, родовых землях" аж у тых "пределах", дзе гулялі "чудо-богатыри" ката-фельдмаршала Суворава ды генерала вешальніка Мураўёва.

(Працяг будзе.)

Позиция

## Совместно отстаивать суверенитет, свободу и демократию в Беларуси

27 апреля 1999 года состоялось подписание совместного заявления между Либерально-демократической партией Республики Беларусь и Белорусским союзом "Отечество". В нем говорится:

1. Либерально демократическая партия Республики Беларусь и Белорусский союз "Отечество" подтверждают свою готовность совместно отстаивать суверенитет, свободу и демократию в Республике Беларусь.

2. Либерально-демократическая партия Республики Беларусь и Белорусский союз "Отечество" готовы противостоять деструктивным силам в Республике Беларусь, преследующим цель замены демократических ценностей правовым беспределом, создание плацдарма для прихода к власти красно-коричневых и других экстремистских сил.

3. Либерально-демократическая партия Республики Беларусь и Белорусский союз "Отечество" выступают против втягивания нашего народа под флагом интернационализма в Балканский кризис.

4. Либерально-демократическая партия Республики Беларусь и Белорусский союз "Отечество" верны общечеловеческим ценностям, готовы сотрудничать по всем вышеназванным пунктам на благо белорусского народа во имя стабильности и спокойствия в обществе.

**Антон КУЖЕЛЬНЫЙ.**

## Объединяться с Россией — ни к чему!

Пишет Вам коренной минчанин. Мне почти 45 лет. Родители умерли. Мать была полькой по национальности, отец — украинец. Я же родился в Минске.

И вот, одна моя прародина — Польша — "ушла" в НАТО, Украина — на пороге этого. Нам говорят, что НАТО — враждебный союз. И следует скорее объединяться с Россией, чтобы противостоять этому самому НАТО. А зачем лично мне и многим белорусам это нужно? Беларусь — суверенная, нейтральная страна! По Конституции. И мне не нужна сверхдержава. Я не хочу сам и не хочу, чтоб мои дети воевали с кем бы то ни было. Не лучше ли ладить мирную, достойную человека жизнь, а не создавать ядерные арсеналы?

А что нам, белорусам, говорит А.Лукашенко?

Нет уж, не нужно нам единое государство с Россией. 200 лет нас, белорусов, она держала за пушечное мясо. Может, довольно? Но, как сказал один российский деятель: Беларуси, мол, уже уготовано быть субъектом Российской Федерации. Так вот, я считаю: так могут говорить только те, кто хочет, прорубив окно в Европу, выломать еще и дверь. Чтобы вновь выкачивать из Беларуси миллиарды долларов, как было раньше, прогонять свой транзит через нашу территорию. Да еще и помыкать нами. Это и есть вмешательство во внутренние дела суверенного государства.

И не надо, как ведущий "Панарамы", ехидно замечать, что оппозиция, мол, выводит на митинг протеста против аншлюса всего 3 тысячи человек. Придет время, и люди скажут свое слово. А сейчас многие опасаются, как я понял, провокаций со стороны властей, и это понятно. Ведь уже очевидно, что им лучше российские фашисты, чем белорусские демократы.

И еще — об историческом флаге Беларуси. А.Лукашенко вернул коммунистический флаг, мотивируя это тем, что во время Великой Отечественной войны под бело-красно-белым воевала кучка националистов на стороне Германии. Но почему-то забыл при этом напомнить, что под красным флагом погибали во времена сталинского террора миллионы белорусов. Почему он не возмущается так, что под историческим российским флагом — ныне государственным — воевала против России ж целая армия генерала Власова? И хочет наш президент под этот флаг определить всю Беларусь?

Все делается с прицелом на "единение", и все — от имени народа. Не нужно говорить от имени всех, не все уже думают так, как указывает президент.

**С уважением**

**Владимир Иванович.**

*Минск.*

Стоп-кадр

*Пара на пашу...*

## Чарговая партыя каштоўных ікон перададзена брэсцкай мытняй краязнаўчаму музею

150 каштоўных ікон, канфіскаваных сёлета на беларуска-польскай мяжы, перададзена супрацоўнікамі Брэсцкай мытні абласному краязнаўчаму музею. Па рашэнні спецыяльнай камісіі, некаторыя іконы пакінуты Музею выратаваных каштоўнасцяў, частка адпраўлена ў іншыя музеі краіны, яшчэ адна частка — у праваслаўныя храмы.

Паводле слоў дырэктара Музея выратаваных каштоўнасцяў Ірыны Тарымы, супрацоўнічаць з работнікамі музея мытня пачала даўно: першыя экспанаты былі перададзены Брэсцкаму абласному краязнаўчаму музею яшчэ ў 1973 годзе. У 1989 годзе ў Брэсце адкрыўся новы музей — спецыяльна для канфіскаваных прадметаў мастацтва. У яго фондах сёння захоўваецца больш за 3 тысячы экспанатаў, у тым ліку творы майстроў іканапісу XVI—XX стагоддзяў, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, калекцыі срэбра, мэблі, фарфору, брозны і эмаляў.

У апошнія гады ўсё большая колькасць ікон перадаецца ў царкоўныя епархіі. За апошнія 10 гадоў усяго толькі тройчы аб'яўляліся законныя ўладальнікі ікон, якім яны былі вернуты.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## У Программы развития ООН новый администратор

Марк Мэллок Браун назначен новым администратором Программы ООН (ПРООН). С 1996 года и по сегодняшний день он являлся вице-президентом по международным связям Всемирного банка ООН. На должность администратора ПРООН Брауна рекомендовал Генеральный секретарь ООН Кофи Аннан. А 26 апреля Генеральная Ассамблея ООН утвердила кандидатуру Марка Мэллока Брауна на столь ответственную должность.

В Республике Беларусь, как в государстве с переходной экономикой, Программа развития ООН (ПРООН) занимается оказанием технической помощи в различных областях. Ее основной задачей является оказание помощи правительству Беларуси в формировании государственной политики, ориентированной на соблюдение прав человека.

**Представительство ООН в Республике Беларусь.**

Мікола ТРАФІМЧУК

## "Палын-зямля, палын-жыццё..."

За апошнія два-тры гады напісана шмат змрочнага і светлага, прыземленага і ўзнёслага, горкага і радаснага... Некалькі дзесяткаў вершаў, блізкіх па настроі і тэматыцы, склалі зборнік, назву якому даў аднайменны верш "Таямніца палыну". У нечым задума гэтая навеяна ўражаннямі ад надзвычай рэалістычнай кнігі С.Алексіевіч "Чарнобыльская малітва".

**Аўтар**

* * *

На боскіх вачах  
граюць д'яблы крывавую драму:  
цябе, Беларусь,  
аддаюць на спажыву звярам...  
І ладзяць свой баль  
пад скляпеннямі вечнага храма.  
Ды ганьбу трывае,  
стаіць і не рушыцца храм.

Трывае зямля крывічоў  
і нязломных ліцвінаў.  
О, Божа святы,  
затрымай, адвядзі землятрус!  
Няўжо яшчэ мала  
і трэба нам болей правінаў?  
Ці ёсць большы грэх,  
як на ганьбу аддаць Беларусь?

Ён ёсць, гэты грэх!  
І калі ён, крый Божа, прыспее, —  
абрынецца храм  
і крывёю зальецца амвон...  
Апошні нам дзень даў Гасподзь.

Дзень згарыць ці сатлее...  
Ці будзе світанне?  
Не ведае, мабыць, і Ён.

* * *

Я судзіць нікога не бяруся.  
Для мяне сам Бог адзін суддзя.  
Але ўсё ж за здзек над Беларуссю  
спее гнеў у сціснутых грудзях...

Смерць усіх аддасць  
на суд нябесны.  
Хай жа вас мінае суд зямны:  
Тых, каму за Беларусь балесна  
і ў каго прад ёю — друз віны!

### Пытанні Беларуса

Ці хоць падмурак я змурую  
пад Беларусь — свой новы дом, —  
а хатку трухлую, старую,  
як дах, звяду, пушчу на злом?

І ці ж унук мой загаворыць  
на мове дзеда на жывой?  
Ці ж гора назавецца горам,  
сляза не ўсмешкай, а слязой?

Ці ж будзе гаспадар у доме,  
а для гасцей — заўжды хлеб-соль?  
Ці ж стане Гонар мне вядомы,  
як сёння мне вядомы Боль?

### Таямніца палыну

*Што мы за людзі?..*  
*(С.Алексіевіч)*

Усё павінна быць жывымі сплочана,  
а мёртвымі пацверджана...  
Амінь!  
Канаем... У стагоддзя на абочыне.  
Пяршыць у горле незямны палын.

Грахі нашы — ранеты буйнаплодныя...  
А справы нашы — спарахнелы тын...  
Чарнобыльскі народ!  
Чарнобылоіды!  
Ці мы не з зоркі з назваю Палын?

* * *

У вас настрой, напэўна, рэдка  
"на ўсе сто"?  
Калі "на сто" — сядайце ў поезд ці ў аўто...  
Пад чорным небам тут раскажуць  
вам пра ўсё

палын-трава,  
палын-зямля,  
палын-жыццё...

Палын-трава,  
палын-зямля,  
палын-жыццё!..  
Дзе, на якім вы сёння свеце жывяцё?  
Нібы на гэтым... Ды здаецца, што на тым,  
яшчэ і ў пекле, дзе смурод і курадым.

* * *

Сэнс здаровы не дае мне спуску,  
і свідруе думка спакваля:  
Беларусь без мовы беларускай —  
як вакол Чарнобыля зямля...

**г. Мінск**

## Найбольшым даверам у мінчан карыстаюцца царква, войска, недзяржаўныя СМІ і ААН

Сярод розных грамадскіх і дзяржаўных структур найбольшым даверам у мінчан карыстаецца царква. Такія звесткі анкетнага апытання, праведзенага сацыялагічнай службай "Зеркало" кампаніі БелаПАН сярод 600 жыхароў беларускай сталіцы. На царкву падчас апытання ўказалі 24 працэнта рэспандэнтаў. 13 працэнтаў апытаных поўнасцю давяраюць войску, па 11 працэнтаў — недзяржаўным сродкам масавай інфармацыі (СМІ) і Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ААН). Па 10 працэнтаў рэспандэнтаў адзначылі незалежныя прафсаюзы і дзяржаўныя СМІ. 9 працэнтаў апытаных мінчан поўнасцю давяраюць Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) і 8 працэнтаў — прэзідэнту. Рэйтынгі поўнага даверу іншым структурам ніжэй. Сярод інстытутаў, прадстаўнікі якіх зусім не карыстаюцца даверам, лідзіруюць наступныя: партыі, якія падтрымліваюць прэзідэнта, — 45 працэнтаў, міліцыя — 43 працэнты, а таксама ўрад і мясцовыя органы ўлады — па 42 працэнты. 41 працэнт рэспандэнтаў поўнасцю не давяраюць прэзідэнту і столькі ж — 41 працэнт — апазіцыі.

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ.**

Точка зрения

# Как же избавить крестьян от "рабства" и "каторги"?

*Продолжение разговора, начатого на страницах "Народной воли" Е.Лугиным 12 марта 1999 года.*

В начале тридцатых годов становление коллективных земледельческих хозяйств осуществлялось в стране Советов в соответствии с программными документами коммунистов под предлогом классовой борьбы с кулаками. Частная собственность на землю аннулировалась, так как она, по Ленину, "ежедневно и ежечасно рождала новые слои капиталистов". Труд стал обязательным, а по сути принудительным, то есть рабским.

Рабство, по сути, было физическое: многие десятилетия сельские жители, не имея паспортов и права выезда из колхозов, полностью зависели от капризов председателей, бригадиров колхозов и местных властей. Повсеместно наблюдалась нравственная деградация в связи с люмпенизацией и обнищанием колхозников. Они теряли веру и надежду на возможность лучшей жизни, а отсюда — беспросветность, пьянство и воровство. Молодежь повсеместно стремилась уехать в города в поисках лучшей доли. В подавляющей массе родители "выталкивали" своих детей в города от этой беспросветности, нищеты и рабской зависимости от местных "держиморд".

С развитием промышленности, более рациональным использованием земных недр (нефти, руды, цветных металлов), расширением международной торговли, механизацией труда на земле, совершенствованием технологических процессов и т.д. во многих регионах страны были периоды относительного благополучия жизни крестьян. Большое испытание надежности колхозно-совхозного строя наступило в последние годы, особенно в период так называемого "зрелого социализма".

Сегодня в сельскохозяйственном производстве сложилось три категории коллективных хозяйств: рентабельные (немного), находящиеся "на плаву" и нерентабельные или убыточные (подавляющее большинство). Причем в связи с экономико-правовой вакханалией в стране число первых быстро уменьшается, а остальных — катастрофически растет.

Экономическая деградация страны ведет не только к обнищанию людей, но и падению культуры их взаимоотношений, ухудшению состояния здоровья. Растет численность хронических заболеваний, в том числе вирусных, онкологических (чему способствует радионуклидное загрязнение), заболеваемость туберкулезом приобрела эпидемические масштабы, особенно в лагерных зонах, расширяются масштабы алкоголизма с тяжелыми семейно-бытовыми последствиями, сокращаются продолжительность жизни людей и численность населения, наблюдаются другие негативные тенденции.

Могут ли нынешние, не просыхающие от дешевой водки, колхозники в нерентабельных хозяйствах превратиться в добросовестных работников? Считаем:

1) При сохранении нынешней системы сельхозпроизводства и управления, основанных на отчуждении земли и всех других средств производства, — не могут. Обоснования этого тезиса не нужны, ввиду красноречивых свидетельств в наших продовольственных магазинах, в прессе и т.д.

2) При реформировании форм собственности на землю и средства производства, улучшении законодательства в сторону поддержки частного производства и крестьянства — могут. Об этом свидетельствовал опыт работы нескольких тысяч арендаторов и фермеров в начале 90-х годов и опыт развития сельхозпроизводства в других государствах.

Как мы представляем пути возможного рационального реформирования сельского хозяйства?

Сохранившие жизнеспособность и рентабельность колхозы и совхозы целесообразно переводить на акционерные формы хозяйствования — как более высокую ступень организации коллективного производства, переработки, сохранения и сбыта продукции без участия государственных посредников. Примером АО может быть колхоз "Рассвет" на Могилевщине. Более упрощенной схемой ведения хозяйства по своей производительности может стать организация научно-производственных, технико-экономических объединений (НПТЭО). Этому образцу в значительной мере соответствует ведение хозяйства в колхозах "Октябрь" и "Прогресс" на Гродненщине (см. "Народную волю" от 12 августа 1998 г.).

3) Малорентабельные, но пока не "добитые" хозяйства, имеющие кое-какой потенциал, по-видимому, в течение ближайших 2—3 лет можно попытаться спасти и активизировать производство значительными финансовыми субсидиями под банковский контроль с правами поощрения достойных, объявления банкротами несостоятельных хозяйств и продажей имущества с "молотка".

4) "Лежачие" и "добитые" хозяйства, без перспектив самостоятельного восстановления, нужно срочно реорганизовать путем приватизации земли и средств производства растущим хозяевам на льготных условиях. Нужны: рынок земли, ипотечные залоги (поручительство через банки), система законодательного стимулирования притока людей из городов, многолетние кредиты, льготное налогообложение, а также паритетность цен на сельскохозяйственные и промышленные товары с целью крупномасштабного производства профилированной сельхозпродукции.

При принятии решений о реорганизации "лежачих" колхозов и совхозов следует учитывать психологию людей. Нынешние сельчане в основной массе — лица пожилого возраста. Они не привыкли и больше не могут "выкладываться" на общественно полезной работе. Они убеждены, что государство не даст им умереть с голода, обеспечит регулярные субсидии на посевную, уборку урожая и т.д. Эта категория, чаще всего алкогольно-отягощенная, будет отстаивать создавшееся положение и голосовать против перехода на частную собственность земли. Для преодоления этих настроений разумно наделить старых колхозников хорошими паями земли, которая может стать для них источником существования за счет сдачи в аренду или продажи.

Почему выходом из создавшейся ситуации не может быть передача колхозов и совхозов заводам, как это практикуется сегодня во многих регионах страны? Основной аргумент: это мина замедленного действия, подрывающая конкурентоспособность основной продукции заводов, которая повысит стоимость основного производства за счет дополнительных затрат на бытовые службы, огромный аппарат управления, внедрение новых технологий и т.д.

Поможет ли выйти из патовой ситуации рекомендуемое средствами массовой информации предоставление возможности "взять" 10—15 гектаров земли для пользования крестьянами? Во-первых, не ясно, на каких условиях может быть предоставлена земля — в аренду, в подряд или в полную собственность с правом продажи, залога в банк и т.п. Ведь история лозунгов о собственности на землю обновлялась неоднократно. Людям известна противоречивость популяризации и реальной жизни крестьян за многие десятилетия в стране Советов.

Во-вторых, где законодательные гарантии, что эта земля через 2—3 года не будет изъята самодуром-руководителем колхоза или местной власти, а арендатор будет разорен? Такие случаи, к сожалению, имели место в недалеком прошлом.

В-третьих, отсутствует система мер материальной и юридической помощи арендаторам, фермерам и т.д. Ближайшие колхозы и совхозы весьма ревниво относятся к успехам развивающихся хозяйств — частных лиц, не без основания видя в них серьезных конкурентов в производстве сельхозпродукции при более низкой ее себестоимости.

Наконец, можно ли делать ставку на городских жителей, дачников, пенсионеров с наделами от 5 до 20 соток земли? Этот вариант вполне может быть использован, но, по-видимому, как пожарный для быстрой разрядки ситуации (2—4 года) в самообеспечении городского населения свежими овощами и корнеплодами. В эти мероприятия потребуется вкладывать свой труд, использовать личные ресурсы и сбережения, частично добиваться кредитов на постройку садового домика, доставку удобрений, транспортные расходы и т.п. А как же быть с производством мясо-молочных продуктов и яиц? Этот вопрос для дачников остается открытым. Кроме того, владельцы дач стареют. Множество хозяйств продается и не находит покупателей, так как молодежь возиться с землей с таким упорством, как пенсионеры, не намерена и скорее она двинется за кордон искать доли, чем мозолить руки на сотках.

Таким образом, проводимые государством мероприятия по сохранению устаревшей схемы существования колхозно-совхозной системы, по нашему мнению, способствуют лишь продлению ее агонии и дальнейшему обнищанию людей. Поэтому НУЖНА ТОЛЬКО РАДИКАЛЬНАЯ РЕФОРМА СЕЛЬСКОХОЗЯЙСТВЕННОГО ПРОИЗВОДСТВА ПО РЫНОЧНОМУ ОБРАЗЦУ, и чем оперативнее она осуществится, тем больше будет шансов на возможность оздоровления всего общества.

**Ветераны труда, дачники:**
**Александр МАНУЛИК,** заслуженный врач республики, доцент;
**Владимир КАРДАШ,** кандидат медицинских наук;
**Евгений ТУРБИНСКИЙ,** специалист по организации производства сельхозпродукции.

## 28 працэнтаў апытаных мінчан лічаць сапраўднай прычынай арышту Міхаіла Чыгіра боязь прэзідэнта перад з'яўленнем палітычнага канкурэнта

Падчас чарговага апытання грамадскай думкі, праведзенай у Мінску сацыялагічнай службай "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, жыхарам беларускай сталіцы 18 гадоў і старэй было прапанавана адказаць на пытанне "Якія сапраўдныя прычыны, на Ваш погляд, прымусілі беларускія ўлады арыштаваць былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра?" Кожнаму трэцяму (34 працэнты) з 600 рэспандэнтаў было цяжка адказаць на прапанаванае пытанне. 28 працэнтаў апытаных лічаць, што Аляксандр Лукашэнка баіцца з'яўлення палітычнага канкурэнта (моцнай асобы). Практычна кожны чацвёрты (24 працэнты) адзначыў: "Аляксандр Лукашэнка баіцца, што прызначаныя Вярхоўным Саветам на 16 мая прэзідэнцкія выбары адбудуцца, і ён страціць уладу". 14 працэнтаў рэспандэнтаў сапраўдную прычыну арышту былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра бачаць у тым, што, "змагаючыся за прэзідэнцтва, ён планаваў змяніць існуючы ў краіне рэжым і палепшыць жыццё народа". 12 працэнтаў апытаных лічаць, што Міхаіл Чыгір быў "нячысты на руку", а кожны дзесяты (11 працэнтаў), што ён — "нячысты на руку" і да таго ж "лезе ў прэзідэнты". І толькі 7 працэнтаў з адказаўшых на анкету жыхароў сталіцы лічаць, што Міхаіл Чигір "лезе ў прэзідэнты", парушаючы законы.

**Эдуард КЛЮЕЎ, БелаПАН.**

